# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Вострабрамская вул. 9 (Ostrobramska 9). Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтора і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана кожнага нумару 30 м. Падпіска на 3 месяцы каштуе 400 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: перад тэкстам 150 мк., сярод тэксту 200 мк. і на апошняй страніцы 70 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт.

Год II. Вільня. Субота, 22-га красавіка 1922 г. № 12 (37).




## АДБУДОВА ЭЎРОПЫ.

Усе Эўрапэйскія дзяржавы паслалі сваіх прадстаўнікоў у Геную, каб там вырашыць шэраг розных пытаньняў аб эканамічным стане Эўропы,— аб яе адбудове. Францыя, Бэльгія, Нямеччына ўжо даўно шыбка адбудоўваюцца. Гэта адбудова ідзе часткай на ўласныя грошы ці на пазычкі, а часткай, у дзяржавах перамогшых, на кантрыбуцыю, якую плаціць Нямеччына.

Усе адбудоўваюцца.

Толькі ў нас, ад'ехаўшы некалькі дзесяткаў вёрст ад Вільні, убачым, як раны на целе Беларусі, быўшыя акопы і бліндажы, пазастаўшыяся ад немцаў і расейцаў пасьля сусьветнай вайны. Цяпер гэтыя бліндажы і акопы разрываюцца польскім „Дэмабілем“; залеза і іншая багацьце вывозіцца, ці прадаецца тут, а грошы ідуць у скарб. Бедныя ўцекачы ад сусьветнай вайны, вярнуўшыся на сваю зямлю, хоць і знаходзяць свае голыя полі, але ад хат не заўсёды яны знаходзяць і сьледу, бо зьнішчаны вайной. Гэтым змучаўшымся ахвярам вайны навет узімку прыходзіцца жыць у акопах і бліндажох.

Можа польскі Урад грошы, атрыманыя хоць ад прадажы таго багацьця якоя забірае „Дэмабіль“, дасьць на пабудоўку хат? Можа замест забранага на палёх дроту і залеза сялянам дадуць плугі і бароны? Можа Польскі урад бедным людзям выдасьць дарма лес з Белавескай пушчы на хаты? Можа коні, якіх варочае Польшчы Нямеччына, пойдуць хоць часткай для гэтых гаротнікаў, каб яны змаглі хоць трошка абжыцца пасьля вайны на сваей зямельцы?

Ня чуваць нешта гэтага! „Дэмабіль“ забірае залеза і дрот і вывозіць у глыб Польшчы. Белавеская пушча, — гэта гордасьць Беларусі, прададзена ангельцам. Коні Зямельны Дэпартамэнт у Вільні прадае з таргоў, каб за іх атрымаць у скарб як найболей грошы.

А можа быць у Генуі хтось успомніць пра частку Беларусі застаўшуюся пад Польшчай? Можа польскі прадстаўнік — Скірмунт? Можа б ён і ўспомніў, каб яго перад Генуёй павадзіць па землянках ды бліндажох, у якіх жывуць людзі, бо пан Скірмунт—„пан“ і яму не ведама, як жыве на чужой Беларусі „хлоп“.

Хто-ж у канцы канцоў будзе адбудоўваць Беларусь?

З пэўнасьцю можна сказаць, што у Генуі аб беларусах ніхто не заікнецца. Пэўна-ж, што ні прадаўшым Белавеж, ні купіўшым яе, няма ніякага дзела да нашых гаротнікаў. Мусіць быць прыйдзецца беларусу моцна плюнуць у далонь, узяць тапор у рукі, дастаць гдзе небудзь крывую лясіну і самаму будавацца. Эўропа будзе адбудоўвацца. Але-ж гэта—Эўропа, ў якой мы беларусы голасу не маем і нас адбудова Эўропы ня тычыцца.

Культурная Польшча лепш назначыць не адзін міжнанародны зьезд ў Варшаве па змаганьню з тыфусам і іншымі хваробамі, чымсь зьвярнець увагу на тоя, што акопы ў Беларусі зьяўляюцца мейсцам адкуль расходзяцца розныя хваробы.

Культурная Эўропа вызначыць яшчэ не адну Кантрольную Камісію, якая будзе лепш знаёміцца з беларускімі яйкамі прыпаднесенымі віленскімі польскімі кабетамі, чым з жыцьцём забытай усімі „меньшасьці“ у некалькі мільёнаў людзей. А тым часам французы будуць адбудовываць сваю зямельку. Бэльгіец—Гюманс, пад лязг адбудоўлі Бельгіі, будзе пісаць для нас „праэкты“, а сыны Беларусі, палегшыя на вайне, як саюзьнікі тых самых французаў, ангельцаў, у рахунак ня йдуць... Памёршыя, яны пратэставаць ня ўстануць!

Так, беларусам спадзевацца няма каго: што самі зробім, тое й будзем мець.

Эсчэ.

## Аляксандар Бурбіс.

З кожным годам меншая лічба тых, што першыя паклалі фундамэнт для сучаснага беларускага руху. Сьмерць вырывае спаміж нас аднаго за адным старых, дазнаных дзеячоў нацыянальнага адраджэньня нашага народу.

Каганец, Цётка, Іван Луцкевіч, а цяпер Аляксандар Бурбіс—усе яны зышлі са сьвету, ўпісаўшы на вечныя часы свае імёны на страніцах гісторыі прабуджэньня зо-сну беларускага народу.

Невялікая была тая грамадка людзей, што першыя выйшлі на родную ніву сеяць зярняты нацыянальнае сьвядомасьці. На сваім шляху яны сустракалі нязьлічаныя перашкоды. І чужыя, і часта свае былі ворагамі ім. Ніскуль ні спогаду, ні падтрыманьня. Голад, холад, гараваньне, а ў пэрспэктыве—няўхільна вастрог... Але яны ўсё-ж ішлі ўпярод: вяла іх глыбокая вера ў сьвятасьць свае справы, а ўсе жыцьцёвыя нягоды толькі мацней злучалі гэту сям'ю ідэйных байцоў за вызваленьне свайго народу і свае́й Бацькаўшчыны.

Да гэтае сям'і належаў і Аляксандар Бурбіс.

Перад маімі вачыма нязвычайна ярка стаіць яго неказістая фігура, а ў вушах зьвініць яго голас, заўсёды гэткі ёмкі і гучны, што ажно дзіўна здавалася, слухаючы яго гарачых прамоваў на мітынгах і сходах.

Жыва ўспамінаецца і першае знаёмства з ім, і гады супольнае работы.

Першы раз сустрэліся мы ў Вільні ў 1904 годзе на зьездах краёвае інтэлігенцыі. Тут, у Вільні, ён жыў і вучыўся, тут зышоўся з Цёткай і Ів. Луцкевічам і „прыняў хрост“ на беларускага дзеяча. З таго часу ні на адзін мамэнт ня зыходзіў з абранае дарогі.

Калі ў восені 1905 году ў Менску адбываўся зьезд Беларускае Рэволюцыйнае Грамады, Бурбіс выступаў на ім, як адзін з дэлегатаў віленскае групы. У Вільні ён ужо быў добра вядомы. Неўтамімы агітатар, добры арганізатар, ён меў сярод работніцкіх масаў Вільні і Нова-Вялейску вялізарную популярнасьць Яго імя звязана з рэвалюцыйным выступленьнем у Мэйшаголе, скуль былі выгнаны прадстаўнікі царскае ўлады і дзе ў працягу трох дзён выяўляў сваю энэргічную дзейнасьць рэвалюцыйны камітэт з Бурбісам на чале. „Прэзыдэнтам Мэйшагольскае Рэспублікі“ жартліва называлі мы яго пасьля за гэта. Але і адпакутаваў ён цяжка за гэты крок: па даносу нейкага нягодніка яго арыштавалі, судзілі і засадзілі на тры гады ў вастрог.

Калі Бурбіс выйшаў з вастрогу (з Лукішак), ён быў фізычна разьбіты і хворы. Благія былі ў яго і адносіны з бацькам—вайсковым. Да таго-ж ён выйшаў на волю ў часы самае цяжкое рэакцыі, калі старая рэволюцыйная работа была ўжо немагчыма.

Але ўсё гэта не зламала гарту яго душы. Сваю нявычарпаную энэргію ён кіруе толькі ў другі бок. І вось бачым яго—галоднага, абдзертага, ў дзіравых ботах, як ад раньня да начы ён бегае па месьце, арганізуючы першы беларускі тэатр і хор беларускі ў Вільні. Гэта праца завяршаецца поўным трыумфам на вялікім беларускім вечары ў лютым 1910 году, на каторым тысячная грамада людзей са сьлязьмі расчуленьня вітала першы раз выступіўшых на сцэне беларускіх актораў, сьпявакаў і танцораў. Між акторамі першае месца занімаў Бурбіс.

Ажно да пачатку сусьветнае вайны вядзе Бурбіс гэту работу то ў Вільні, то аб'яжджаючы з беларускай драматычнай дружынай нашы мястэчкі і месты, то ўрэшце ў Менску. Але гэта не адрывае яго і ад шырэйшага грамадзкага жыцьця: па старому, Бурбіс знаходзіцца ў яго цэнтры.

Урэшце эвакуацыя Вільні расейцамі прымусіла і Бурбіса пакінуць свой

родны горад і выехаць у Расею з установай, якая давала яму магчымасьць матэрыяльнага заробку. Але і на чужыне ён не пакінуў беларускае работы. На зьезьдзе Беларускае Соцыялістычнае Грамады ў Пецярбурзе (пасьля марцовае рэволюцыі) Бурбіс іграў адну з найбольш выдатных роляў. Яго выбіраюць у цэнтральны камітэт партыі, і на гэтым становішчы ён выяўляў, як некалі, вялікую організацыйную дзейнасьць.

Калі запанавала ў Расеі савецкая ўлада, Бурбіс ня йдзе з новымі валадарамі, бо ён перш за ўсё беларус і справу нацыянальную стаўляе вышэй за ўсё. Дарэмна яму суляць розныя дастаенствы: ён здаволіваецца роляй культурнага працаўніка і прадстаўніка ўраду Беларускае Народнае Рэспублікі ў Маскве. І толькі тады, калі Савецкая Расея творыць Савецкую Беларускую Рэспубліку, калі дае беларусам запраўдную магчымасьць культурна-нацыянальнае работы ў дзяржаўных рамках, — толькі тады Бурбіс прынімае становішча дэлегата Бел. Сав. Рэспублікі пры маскоўскім урадзе і кіраўніцтва загранічнай палітыкай Савецкае Беларусі.

На апошнім становішчы ён і памер у Менску. Хвароба, якая ўвагнала ў магілу ўжо гэтулькі нашых дзеячоў: сухоты,—не пашкадавала і яго.

Шчырым жалем адгукнулася Вільня на гэту цяжкую ўтрату: тут яго ўсе ведалі, тут вялікшая частка яго жыцьця і працы праходзіла. Але сьмерць яго шчыры сум вызваць павінна ня толькі ў тых, хто яго знаў асабіста: ў яго асобе ўтраціў беларускі народ самага ідэйнага, самага цьвёрдага і непадкупнага спаміж сваіх сыноў.

**А. Луцкевіч.**

# Маска.

Хто думае, што ў беларусаў ёсьць толькі адзін Аляксюк, які прыкрываючыся назовам „беларус“ робіць сваё брыдкае палітычнае дзела, за якое запраўдные беларусы з ім ня вітаюцца, той дужа мыляцца. У жыцьці каапэрацыі Заходняй Беларусі даўно вядомы другі „Аляксюк“, які, хораша гаворачы па-беларуску на зьездах паўнамоцнікаў Віл. С. Каап., не аднаго з іх падкупляў сваёй хітрай тактыкай. Мы тут маем на ўвазе пана Турчыновіча,—быўшага Старшыню Цэнтральнага Саюзу Каапэратываў Беларускага Краю, пасьля сябра Управы Віленскага Саюзу Каапэратываў ад траўня 1920 г. да сакавіка 1921 году і навет нейкі час (пачатак 1921 г.) Старшыня В. С. К.

Аб гэтым пану Турчыновічу часопісь Варшаўскага Саюзу Работніцкіх Спажывецкіх Таварыстваў: „Swiat Pracy“, ў № 7 ад 1. IV. 1922. піша вось што: „ў чэрвені г. г. (1921) паўстаў у Вільні Саюз Спажывецкіх Таварыстваў Віленскай Зямлі (Związek Stow. Spoż. Ziemi Wileńskiej) арганізаваны з ініцыятывы кіраўніка Аддзелу Саюзу Польскіх Спажывецкіх Таварыстваў у Баранавічах“... Вядома, што Кіраўніком Баранавіцкага Аддзелу ад пачатку яго істнаваньня быў і ёсьць п. Турчыновіч. Вядома таксама, што п. Турчыновіч быў на зьездзе паўнамоцнікаў В. С. К. у маі 1921 г., астаўся незадаволены вынікамі гэнага зьезду, асабліва выбарам у Управу Саюзу запраўдных беларускіх дзеячоў.

І вось зараз жа пасьля майскага зьезду прыступае к разьбіцьцю каапэрацыі ў краі. Ён поплеч з В. С. К. у Вільні арганізуе новый Союз. Каапэратываў і ў яго статуце праводзе раён дзейнасьці на ўсю Віленшчыну. Да тэй жа пары п. Турскі (цяперашні Старшыня Z. S. S. Z. W.) думаў толькі аб Закупачным Бюро для сваіх гарадзкіх каапэратываў.

Магчыма, што ўжо тады быў вырашаны прыезд Вольскага у В. С. К., каб так ці інакш гэты Саюз разбурыць і ачысьціць дарогу для Z. S. S. Z. W. Калі Вольскі павёў атаку проціў В. С. К., дык ён вызываў па тэлеграфу Турчыновіча на паседжаньне Рады, прапануючы яго ў Дырэктары В. С. К.

Самая праца Турчыновіча ізноў жа ёсьць нішто іншая як пашырэньне працы Саюзу Польскіх Сп. Т-ваў ў нашым краі, спыненьне разьвіцьця краёвай каапэрацыі. Можна гэта прасачыць на Навагрудзкім Саюзе, які пад моцным прыціскам Турчыновіча хварэў увесь 1921 г. і ніяк ня мог ўстаць на ногі, пакуль у ім верхаводзіў Турчыновіч.

Як многа шкоды прынясла праца пана Турчыновіча на ніве каапэрацыі ў нашым краі відаць з таго, што й да гэтуль канкурэнцыя паміж В. С. К. і створаным Турчыновічам Z. S. S. Z. W. яшчэ трывае і разьбівае каапэрацыю у краі; яшчэ да гэтуль ніяк ня можа разьвіцца моцны Краёвы Саюз на ўвесь абшар, а ў краі істнуе некалькі Саюзаў: —два ў Вільні, адзін—у Лідзі, адзін—у Навагрудку і Аддзел у Баранавічах (сяліба п. Турчыновіча).

**Ка—а—пэ.**

# Голас сялянства.

Яшчэ адзін лішні доказ штучнасьці таго варожага да беларусаў настрою, які польскі нацыяналізм стараецца прышчапіць нашым апалячаным братом—тутэйшым сялянам.

У той дзень, калі беларускае грамадзянства спраўляла сьвята абвешчаньня незалежнасьці Беларусі (25 марца), ў ў Лідзе адбываўся зьезд сяброў партыі „Odrodzenie - Wyzwolenie“ — пераважна сялян Лідчыны. І вось гэтыя сяляне адгукнуліся на нашае нацыянальнае сьвята і аднагалосна пастанавілі выказаць свой спогад беларускім палітычным імкненьням, аб чым старшыня зьезду прыслаў на рукі Беларускага Нацыянальнага Камітэту вось гэткае пісьмо (ў польскай мове).

Ліда, 25. III. 22.

Зьезд „Odrodzenia-Wyzwolenia“ Лідчыны, стоячы на грунце волі і брацтва народаў, шлецъ братом-беларусам у дзень іх нацыянальнага сьвята сардэчнае прывітаньне і пажаданьне поўнага зьдзейсьненьня іхніх ідэалаў.

**Барановскі**
Старшыня Зьезду і Дэпутат
Устаноўчага Сойму ў Варшаве.

Мы шчыра вітаем гэтае выступленьне, як знак, што сялянства нашага краю, хоць і дзеленае рэлігіяй і чужацкай агітацыяй, хоць часта ўжываючы рознае мовы, разумее, што яно запраўды становіць адну суцэльную сям'ю, што інтарэсы і патрэбы ў яго адны, як адны ў яго і ворагі. Мы вітаем гэта асабліва затым, што набліжаецца час выбараў у Варшаўскі Сойм і ад нашага краю, калі сялянства тутэйшае павінна будзе напружыць усе свае сілы і сваю сьвядомасьць, каб ня даць прайсьці ў Сойм сваім векавечным ворагам—ваўком, прыбраным у авечыя скуры, а то й без яе.

Мы верым, што лідзкія сяляне не дадуць послуху панскай зьвязе і першыя ў патрэбны мамэнт на дзеле пакажуць сваю еднасьць з мільённай грамадой усяго гаротнага і бясправнага беларускага сялянства.

**Яратэўскі.**

# Што чуваць у сьвеце?

**Генуэская канфэрэнцыя.**

— 10 красавіка канфэрэнцыя была урачыста адчынена італьянскім прэм'ерам Фактам, які аднагалосна быў выбраны старшынёй канфэрэнцыі.

— У прывітальнай прамове Чычэрын, старшыня расейскай дэлегацыі, заявіў, што лічыць неабходным эканамічнае міжнароднае супрацоўніцтва. Расея гатова адчыніць свае граніцы для міжнародных зносін і аддаць канцэсіі на здабычу вугля, залеза і іншых мінэралаў. Расея прызнае і гатова абараняць асабістую уласнасьць чужаземцаў.

— Малая Антанта на чале з Польшчай вядзе агітацыю за прызнаньне сав. улады, якое лічаць саўсім магчымым.

— Бальшавікі нездаволены сваёй кватэрай, адкуль трэ' ехаць паўтары гадзіны да Генуі. Варта сав. дэлегацыі такая вялікая, што мае характар арышту.

— Сав. прадстаўнікі дапушчаны ва ўсе камісіі канфэрэнцыі, хаця раней праэктавалася дапусьціць іх толькі ў некаторыя.

— Польша прадстаўлена адно ў некаторых камісіях.

— Карэспандэнт „Народных Лістоў“ ня верыць, што палітычная згода будзе вынікам канфэрэнцыі. Калі удасца знайсьці агульны напрамак працы, то кожная дзяржава будзе старацца зрабіць свае вывады, ня згодныя з другімі.

— Чычэрын зьбіраецца даведацца Папежа, каб асабіста падзякаваць яму за дапамогу галадаючым у Расеі.

(Славпрес)

— Сав. дэлегацыя прывезла гатовы проэкт разбраеньня войск. Сав. урад, паводле гэтага проэкту, згодзіцца на зьменшэньне сваёй арміі да паўмільёна штыхоў, але пры тым варунку, калі арміі: польская, румынская, эстонская, латвійская, фінляндская і чэхаславацкая ня будуць перавышаць гэтай лічбы.

— Вялікай неспадзеўкай на канфэрэнцыі зьявіўся расейска-нямецкі трактат. Падпісаньне яго часова затрымала работы канфэрэнцыі. Антанта выдзеліла камісію экспэртаў дзеля разгледжаньня нязгоднасьцяў між трактатамі расейска-нямецкім і вэрсальскім.

— Савецкі урад вырашыў падняць пытаньне на Генуэскай канфэрэнцыі а[illegible] пераглядзе рыскага дагавору.

---

**Францішк Аляхновіч.**

# ШЧАСЬЛІВЫ МУЖ

камэдыя ў 4 актах.

(Глядзі № 11 (36)

**Мацальскі.** О, вельмі!.. Асабліва вальсы!.. Як зайграе музыка: тра-ля-ля, тра-ля-ля, тра-ля-ля, дык, проста кажучы, ногі самі скачуць... (балянсіруе перад Магдаленай і пяе): Тру-ля-ля, тру-ля-ля...

**Мяшочыха** (ціха да Леакадыі). Ідзі бліжй, пагавары з ім аб музыцы. Ці-ж на тое я плачу грошы вучыцяльцы, каб ты стаяла як пень, не адчыняючы рот.

**Мацальскі.** А вось заграніцай дык я чуў не такую музыку, як у нас бывае, а такі вялізны аркестр, мусіць дзесяць або сто тысяч чэлавек... Дык гэтакі аркестр так голасна грае, што ў другім горадзе, суседнім, так мусіць вярстоў за сто, людзі пад гэту музыку скачуць... (ізноў я. в.) Тру-ля-ля, тру-ля-ля...

**Мяшочак** (падсоўваецца). А вы, граф, любіце астраномію?

**Мацальскі.** Што? Каго? А! проста кажучы, зоркі глядзець... Ха-ха ха! Вясёлая кумпанія! Люблю вясёлых людзей!.. Тру-ля-ля!.. Тру-ля-ля

### Зьява 9.

**Тыя-ж і Гаўдэнт.**

**Гаўдэнт** (з правых дзьвярэй высоўвае галаву, паказвае бутэльку з віном, псыкае іківае пальцам да жонкі).

**Магдалена** (да гасьцей). Выбачайце, я зараз... (выходзіць на кліч мужа).

### Зьява 10.

**Тыя-ж без Магдалены і Гаўдэнта.**

**Мацальскі.** А! гаспадарскія клопаты!.. Госьці нарабілі гаспадыні клопату!.. Калі ласка... калі ласка... (да Фэлькі). Я вельмі вам удзячны, што праз вас я пазнаёміўся з гэтай прыемнай кумпаніяй... А пані гаспадыня—гэта ягадка!.. Проста кажучы, я шчасьліў... як кажуць пафранцузку: я вельмі кантэнты! Гм... так... таго... (курыць папіроску; усе маўчаць і глядзяць на яго з пашанай).

**Пышка.** А... пагода сягоньня харошая...

**Мацальскі** (недачуўшы). Але, асабліва гэты носік, гэтая кругленькая мордачка... Люблю гэтакіх баб... Тру-ля-ля, тру-ля-ля...

**Мяшочыха** (да Мяшочка). Ты чуеш, што ён кажа аб нашай Леакадцы? Спадабалася!

### Зьява 11.

**Тыя-ж, Магдалена, Гаўдэнт.**

**Магдалена** (уваходзячы, да Мацальскага). Калі ласка, пан граф, будзьце знаёмы: мой муж...

**Мацальскі** (падае руку ўвайшоўшаму за Магдаленай Гаўдэнту). Шчасьліваму мужу гэтакай прыгожай жонкі маё, можа сказаць, прывітаньне... проста кажучы: о рэвуар!

**Гаўдэнт** (вітаецца раней з Мацальскім, пасьля з усімі пачарзе; бутэлька яму перэшкаджае, ён яе хавае за пазуху; прывітаўшыся, пайшоў у другі пакой праз сярэднія дзьверы і ставіць там на стале бутэльку).

**Мацальскі.** Мэдам і мэсье! Калі можна спытацца, ці скокі будуць?

**Магдалена.** Няўжож! Толькі ў нас музыка няважная, можа вы, граф, не прывыклі танцаваць пад гэтакую... (чутно званок за сцэнай; кліча да мужа ў другі пакой). Гаўдэнт! адчыні! спаткай гасьцей!

**Мацальскі.** Нічога... я прывык пад уселякую... Асабліва ў такой вясёлай кумпаніі... Вы пазваліце першага вальса з вамі... Тру-ля-ля!..

**Магдалена.** Калі ласка... з вялікай прыемнасьцю.

**Мацальскі** (гледзячы на яе, як кот на сала). Ох, мая ягадка чырвоненькая! пумпачка!.. (цалуе яе ў руку).

**Магдалена** (аглядаючыся навокал). Ах, што вы!.. пасьля...

### Зьява 12.

**Тыя-ж, Лапурка, Галька, Уршуля** (уваходзяць).

**Лапурка** (вясёлы хлапец з гармонікам; увайшоўшы, цалуе Магдалену ў руку). Пані Магдалене наша паважаньне! Віншую з імянінамі... каб заўсёды было многа грошай, многа шчасьця і многа дзетак...

**Магдалена.** Фу!.. Ну, што вы!.. Дзякую!..

**Галька** (цалуецца з Магдаленай). Віншую цябе, Магдзя, і зычу табе ўсяго таго, чаго сама хочаш...

**Магдалена.** Дзякую... дзякую...

**Уршуля** (так-сама цалуецца). Усяго найлепшага...

**Магдалена.** Дзякую... Будзьце знаёмы: граф Мацальскі,—пан Лапурка з жонкай, панна Уршуля...

**Мацальскі** (падае руку). Граф Мацальскі... Я, можна сказаць, авэк плязір...

**Магдалена.** Ну, і ня будзем марудзіць. Калі ласка, прашу ўсіх сюды, у гэты пакой, закусіць крыху... Прашу!.. (паказвае рукой на сярэднія дзьверы).

Усе, апроч Шышкі і Пышкі, ідуць у другі пакой і сядаюць навокал стала. Мацальскі пасярэдзіне.

**Пышка** (устрымоўваючы Шышку). Слухай, ты ня ведаеш, ці пры стале трэба з дамамі гутарыць, ці можна маўчаць?

**Шышка.** Пры стале, здаецца, можна маўчаць... Але вось у часе скокаў дык трэба гаварыць кампляманты...

**Пышка.** Гм... трудна...

**Шышка.** Есьць такая кніжка, называецца „самавар вівр“, ці што, дык у ёй напісана ўсё як і калі трэба. Мы яе купім у складчыну. Добра?

**Пышка.** Але. Купім...

**Магдалена** (зварачваючыся да Пышкі і Шышкі). Калі ласка, просім да стала!.. Чаму-ж вы засталіся?..

**Пышка і Шышка.** Мы ўжо... выбачайце...

**Магдалена** (паказваючы ім іхнія месцы). Вось вы тут, пане Пышка, а вы, пане Шышка, тут...

**Мацальскі** (устае, трымаючы ў руцэ чарку). Мадам і мэсье! У гэтакі ўрачысты мамэнт, калі, можна сказаць, наша пані гаспадыня сьвяткуе свае імяніны, я прапаную выпіць гэту першую чарку за здароўе пані гаспадыні... Ура!

**Усе.** Уррра! (пьюць).

Заслона.

### АКТ II.

Дэкарацыя тая самая.

Усе ўжо добра выпілі. Твары пачырванелі.

### Зьява 1.

**Гаўдэнт, Магдалена, Мацальскі, Фэлька, Мяшочак, Мяшочыха, Леокадка, Уршуля, Лапурка, Галька, Пышка, Шышка.**

(Усе сядзяць яшчэ пры стале).

**Мяшочак** (да Мацальскага). Вось калі ты такі вучоны граф, дык ты скажы мне, чаму Каін Абэля

